# Працаўнік асьветы

Дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“

№ 10 30 верасьня 1928 г. № 10


ЗЬМЕСТ



## Супроць голага адміністрыраваньня.

(Артыкул Старшыні ЦК Саюзу Працасьветы А. КАРАСЬЦЕЛЕВА).

За апошнія 2—3 гады, асабліва пасьля ўсесаюзнага настаўніцкага зьезду (студзень 1925 г.) і XIII зьезду партыі, ролю і вялікае значэньне вясковага настаўніцтва, прадстаўляючага сабой асноўны кадр культурных работнікаў на вёсцы, зразумелі ўсе. Сваёй шырокай грамадзкай працай у парадку дабрахвотнасьці ў самых глухіх кутках нашага Саюзу: у галіне ліквідацыі няпісьменнасьці, хатах-чытальнях, кааперацыі, у правядзеньні шматлікіх кампаній, прапагандзе за новыя формы земляробства, азнаямленьні сялянства з савецкімі дэкрэтамі, распаўсюджваньні падпіскі на газэты і часопісы і г. д.—настаўнік заваяваў сабе ганаровае месца і вышаў у першыя шэрагі праваднікоў уплыву партыі і савецкай улады на вёсцы. Перакіданьне і звальненьне настаўніцтва, якое шырока практыкавалася да таго часу, значна скарацілася. Партыя сваімі дырэктывамі аб неабходнасьці большага давер'я настаўніцтву паклала канец адміністрацыйным наскокам і камандваньню з грубым парушэньнем самых элемэнтарных правоў настаўніка.

Цяпер з шэрагу месц зноў ідуць трывожныя весткі аб масавых перакіданьнях, чыстках і звальненьнях настаўніцтва галоўным чынам сельскага.

У чым справа?

Чаму зноў так востра выявіўся адміністрацыйны націск у адносінах да настаўніцтва? У аснове нібы пакладзена жаданьне палепшыць якасьць школьнай працы праз прыцягненьне новых пэдагагічных сіл, праз замену нягодных пэдагогаў лепшымі і г. д. Але калі бліжэй азнаёмішся з матар'ямі і спрабуеш аналізаваць паасобныя факты, дык лёгка пераканацца, што асноўнымі прычынамі звальненьняў і перамяшчэньняў у большасьці выпадкаў зьяўляюцца грубыя і бюракратычныя адносіны да настаўніцтва, поўнае скажэньне лініі партыі і дырэктывы савецкай улады.

Гэткія надзвычайна ненармальныя адносіны да настаўніцтва часта тлумачацца тым, што нізавыя партыйныя і савецкія органы стаяць далёка ад жыцьця школы. Школа яшчэ не зьяўляецца прадметам належнай апекі і ўвагі, аб яе працы часта ведаюць мімаходам, па чутках. Адсюль адсутнасьць належнай аб'ектыўнай ацэнкі працы настаўніка. Калі і ўдзяляюць настаўніку ўвагу, дык яна найчасьцей выяўляецца ў адміністрацыйных распараджэньнях. Раённыя выканкомы і сельсаветы, а таксама парт'ячэйкі мала прыцягваюць настаўніка да абмеркаваньня важнейшых пытаньняў. Між тым у парадку грамадзкай нагрузкі, праз загады, ускладаюць на настаўніка правядзеньне вельмі адказных кампаній хлебазагатоўкі, пасеўныя кампаніі: пазыкі і г. д., часта ня лічачыся з яго непасрэднай школьнай дзейнасьцю. На гэтай глебе ствараецца шмат непаразуменьняў і ўзаемнага нездаволеньня, а ў выніку —агульнае зусім беспадстаўнае абвінавачаньне настаўніка ў няздатнасьці, а часамі і ў контррэвалюцыі.

Таксама б'е па настаўніку няправільнае разуменьне самакрытыкі, калі ён уздумае зазначаць на недахопы ў працы мясцовых органаў улады.

Мы добра ведаем, што сярод настаўніцтва ёсьць пласты, якія працуюць яшчэ далёка нездавальняюча, а некаторыя нават і вельмі дрэнна. Было-б недарэчнасьцю дамагацца поўнай стабілізацыі існуючага кадру пэдагогаў, недапушчэньня якой-небудзь замены зусім няпрыгодных настаўнікаў лепшымі. Але працэс павышэньня якасьці пэдагагічнага складу школ вельмі доўгі, вельмі цяжкі і складаны і вымагае да сябе асьцярожнага падыходу. Бюракратычны спосаб простай замены адных настаўнікаў другімі, бяз сур'ёзнага вывучэньня прычын, перашкаджаючых палепшаньню якасьці настаўніка, бяз ужыцьця адпаведных мер аказаньня неабходнай дапамогі настаўніку, па сутнасьці не дапамагае справе, а толькі шкодзіць ёй.

Аднаўленьне складу пэдагогаў праз падрыхтоўку ў пэдтэхнікумах і пэдвузах новых кадраў—справа доўгіх гадоў, асабліва калі ўлічыць шпаркі рост сеткі школ у зьвязку з усеагульным навучаньнем. Па гэтым шляху мы павінны ісьці цьвёрда і няўхільна, не адступаючы перад цяжкасьцямі. Але поруч з гэтым неабходна ўжыць больш сіл і ўвагі да ўсямернага ідэалёгічнага набліжэньня да нас існуючых кадраў настаўніцтва, зрабіць іх перадавым атрадам у справе камуністычнага выхаваньня падрастаючага пакаленьня.

«Мы павінны ісьці,—як вучыў У. І. Ленін, — сыстэматычнай, няўхільнай, настойлівай працай і над яго (настаўніка) духоўным уздымам і над яго ўсебаковай падрыхтоўкай да яго сапраўды высокага званьня». І далей: «Трэба сыстэматычна ўзмацніць працу па ар-



# Патрэбен прадуманы падыход.

Карэньне рэлігійнасьці, розпае па сваім паходжаньні, крыецца ў глыбіні псыхікі чалавека.

Кожная эпоха людзкой гісторыі адкладала на дно псыхікі свае пласты рэлігійнасьці — і радаснае паганства антычных часоў, і містычная рамантыка сярэднявякоўя, і суровасьць праваслаўнага староверства, і, урэшце, духоўныя шуканьні пазьнейшага часу. Усё гэта разам узятае стварае моцны эмоцыянальны згустак на дне псыхікі, у вобласьці падсьвядомасьці.

Таму так і патрэбна антырэлігійнае выхаваньне як школьнае, так і агульна-грамадзкае, каб мерцьвякі мінулага, што кішаць у глыбінях псыхікі, ня шкодзілі будаваць новае жыцьцё. Але гэта выхаваньне — вельмі складаная справа, якая вымагае прадуманага падыходу і пільна распрацаванай мэтодыкі і тэхнікі.

Асновай антырэлігійнага выхаваньня і прапаганды, асабліва ў пачатку і сярод малакультурнай гушчы, павінны быць мэтады ня простага, непасрэднага, а вакольнага, паступовага ўплыву бязбожніцтва. З гэтага і трэба пачынаць, як мага шырэй карыстаючы дзеля гэтага прыродазнаўства і грамадзкія навукі і выкрываючы эксплёататарскую сутнасьць рэлігіі. Да другога этапу—да антырэлігійнай прапаганды мэтадамі простага ўплыву — трэба пераходзіць толькі пасьля доўгага выкарыстаньня спосабаў вакольнага ўплыву, пасьля моцнага замацаваньня за сабой слухача.

Посьпех у гэтай справе можа быць забясьпечан толькі тады, калі антырэлігійная праца ня будзе абмяжоўваца толькі лекцыямі, гутаркамі, працай у гуртках і іншымі спосабамі ўплыву на розум, бо рэлігійнасьць караніцца ня столькі ў розуме, колькі ў падсьвядомасьці і ў побыце. А дзеля гэтага трэба ў гэтых адносінах правесьці нейкую такую працу, якая магла-б энэргію рэлігійнай падсьвядомасьці абярнуць на належную культурна-грамадзкую актыўнасьць. Мала змагацца з рэлігі нымі сьвятамі, мала замяняць іх рэвалюцыйнымі і бытавымі сьвятамі. Трэба ўмець арганізаваць іх так, каб яны ня былі адбываньнем грамадзкай павіннасьці на нудных мітынгах і дэманстрацыях, але каб яны разражалі і задавальнялі тыя пачуцьцёвыя запатрабаваньні, якія раней абслугоўвала царква. Праўда, у гэтых адносінах наш Менск ужо можа пахваліцца некаторымі дасягненьнямі, якія выявіліся хоць-бы ў дні ўрачыстасьцяў дзесяцігодзьдзя Кастрычніка. Але гэтага яшчэ надта мала. Трэба ісьці далей па шляху адшуканьня належных спосабаў ладзіць рэвалюцыйныя і бытавыя сьвяты так, каб у мастацкай форме, эмоцыянальна, коратка і выразна адбівалася ўся сутнасьць гэтых сьвятаў, каб маглі задавальняцца грамадзка - калектыўныя запатрабаваньні: разам павесяліцца, пасьпяваць, пагуляць і г. д. Гэтыя спосабы павінны шырока агарнуць нашу вёску.

Рэлігійнасьць трымаецца ня толькі на карэньнях мінулага, што крыюцца ў глыбіні падсьвядомага. Наша сучаснасьць настолькі складаная, яна настолькі бурна разьвіваецца, часта некаторых цяжка ранячы, а другіх змушаючы моцна адгукацца на ход яе разьвіцьця, што і тут усплываюць такія пытаньні, за вырашэньнем якіх некаторыя здольны зьвярнуцца да рэлігіі. Гэта, разумеецца, выкарыстоўвае армія чорнарызьнікаў-папоў, стараючыся зноў пераплесьці працоўныя гушчы ніцямі рэлігійнай хлусьні.

Чаму ў нас побач з аграмаднай арміяй камсамолу ёсьць і рэлігійная моладзь? Чаму па некаторых раёнах пашыраюць сваю чыннасьць рэлігійныя вобшчыны і сэкты? Чаму сярод некаторых старэйшых вучняў заўважваюцца містычныя ўхілы?—Вось шэраг пытаньняў, якія павінен паставіць перад сабой кожны грамадзкі працаўнік, кожны асьветнік. І паставіць не наогул, а ў кожным паасобным выпадку ў адносінах да сваей вёскі, да сваей школы, да сваей арганізацыі. Таксама і адказы на гэтыя і падобныя пытаньні не павінны абмяжоўвацца такімі агульнымі словамі, як «буржуазны ўхіл», „капіталістычнае абкружэньне», «бытавая закасьцянеласьць» і г. д. Тут трэба шукаць канкрэтныя факты і практычныя, рэальныя меры, якімі антырэлігійная прапаганда магла-б задаволіць выяўленыя грамадзкія запатрабаваньні і накіраваць нявольнікаў рэлігійнай спадчыны на карысную працу, на будаўніцтва новага жыцьця.

Толькі абгрунтаваная на навукова-грамадзкіх падставах антырэлігійная прапаганда дасьць багаты плён.

Я. П.

---

ганізацыі народных настаўнікаў, каб зрабіць іх з апоры буржуазнага ладу, якой яны зьяўляюцца да гэтага часу ва ўсіх без выключэньня капіталістычных краінах, апорай савецкага ладу».

Зразумела, значна лягчэй «разнасіць» настаўніка, прыклейваць яму розныя ярлыкі, бюрократычным спосабам, без захаваньня кодэксу аб працы, зьнімаць яго з працы, чымся весьці сыстэматычную працу па ўзьняцьцю на належную вышыню яго пэдагагічнага, грамадзкага і палітычнага ўзроўню. Мэтад адміністрацыйнага націску на настаўніка робіць вялікую шкоду нашаму культурнаму будаўніцтву. Парушэньні прававаго становішча настаўніка ўносяць перапуд і няўпэўненасьць у заўтрашнім дні ў шырокія асьветніцкія масы, а гэта немінуча перашкаджае плённай і прадукцыйнай працы настаўніка. Адна з асноўных элемэнтарных умоў посьпеху выхаваўчай працы—спакойнае маральнае самаадчуваньне настаўніка-выхаваўцы.

Шпаркае разьвіцьцё вёскі і неабходнасьць больш шпаркага росту культурнага ўзроўню шырокіх мас працоўных прад'яўляюць настаўніку, як пэдагогу і як грамадзкаму працаўніку, усё новыя запатрабаваньні. Партыя паклала нямала сіл, каб заваяваць на свой бок настаўніцкія масы і ў гэтых адносінах дабілася значных вынікаў. Трэба і далей ісьці па шляху ўсямернага прыцягненьня настаўніцтва да сацыялістычнага культурнага будаўніцтва. Неабходна ўсімі спосабамі дамагацца сыстэматычнага павышэньня якасьці працы школ, палепшаньня кадраў настаўніцтва, разьвіцьця ў іх пэдагагічных і грамадзка-палітычных навыкаў. Але гэтыя задачы з большым посьпехам будуць праведзены, калі больш чуласьці, умелага падыходу і кіраўніцтва выявяць на мясцох партыйныя і савецкія органы ў адносінах да настаўніцтва, дабрахвотна ўзяўшага на сябе вялікую цяжкасьць грамадзкай працы.

Зрабіць настаўніка грамадзкім працаўнікам, камуністычна настроеным, па загаду, бюракратычным спосабам немагчыма. Яго трэба выхаваць і заваяваць на свой бок перакананьнем, увагай да яго патрэб, аказваючы яму ў той-жа час належнае давер'е. Там, дзе спрабуюць выкрывіць гэту ясную лінію партыі, спрабуюць ужыць да настаўніцтва замест разумнага кіраўніцтва мэтады камандаваньня, груба парушаюць яго элемэнтарныя правы, займаюцца незаконным перакідваньнем і звальненьнем,—мы павінны абвясьціць рашучую, бязьлітасную барацьбу супроць такога адміністрацыйнага старанья.

# Настаўніцтва і „Савецкая Беларусь“

Сёлета прышлося мне сустракацца ў раёнах шмат з якімі вясковымі настаўнікамі. К вялікаму майму зьдзіўленьню выявілася, што даволі значны процант настаўніцтва ня чытае газэты «Савецкая Беларусь». Некаторыя абмяжоўваюцца толькі «Беларускай Вёскай», некаторыя чытаюць выпадковыя газэты і выпадкова, некаторыя выпісваюць расейскія, а некаторыя зусім „адпачываюць“ ад газэты.

Гэткае зьявішча трэба лічыць далёка не нармальным. Настаўнік без газэты „Сав. Беларусь“—усё роўна як без рук. Ніводная з беларускіх газэт, а таксама і з расейскіх, калі ня лічыць „Учит. Газеты“ не стаіць так блізка да настаўніка, як „Савецкая Беларусь“. Апрача добрага і падрабязнага асьвятленьня сусьветных палітычных падзей, асьвятленьня эканамічнага і культурнага становішча краіны, стану сельскай гаспадаркі і іншых бакоў жыцьця БССР,—„Савецкая Беларусь“ поўна высьвятляе нацыянальнае пытаньне, што вельмі важна для настаўніка.

Самае-ж галоўнае—«Сав. Беларусь» шырока адчыняе дзьверы настаўніцтву дзеля абмену думкамі аб школьным жыцьці, аб пабудове новай школы на новых падставах, аб новых мэтадах выкладаньня і выхаваньня, аб дасягненьнях і недахопах школы, адным словам - усе бакі школьнага жыцьця і жыцьця настаўніцтва даволі яскрава адбіваюцца на старонках газэты і дадатку «Працаўнік Асьветы». „Савецкая Беларусь“ зьяўляецца тым фокусам, дзе праламляюцца першыя прамені пэдагагічнай думкі і пэдагагічных праблем.

Адгэтуль вывад, што кожнаму настаўніку „Савецкая Беларусь“ неабходна.

Апрача таго,—большы лік чытачоў-пэдагогаў шырэй зможа разгарнуць асьвятленьне школьнага жыцьця і выявіць запатрабаваньні настаўніцтва з самых глухіх куткоў Рэспублікі.

Здаецца дзіўным, калі чытаеш абвестку конкурсу на падпіску сярод асьветнікаў. Па сутнасьці не павінна быць ніводнага асьветніка, які ня меў бы сваёй настольнай газэты і маральны абавязак ускладаецца на кожнага асьветніка - чытача «Сав. Беларусі» зрабіць уплыў на таварыша-суседа, які не мае гэтай газэты, каб ён чытаў яе. У іншым жа разе будзе адарванасьць асобных членаў ад вялікага калектыву пэдагагічнай думкі і наогул адарванасьць ад сацыяльнага арганізму. На гэта таксама павінны зьвярнуць увагу ўсе канфэрэнцыі і зьезды асьветнікаў.

З боку рэдакцыі, мне здаецца, трэба было-б паставіць больш шырока справачны аддзел па ўсіх пытаньнях, якія цікавяць асьветніка, каб газэта зьяўлялася для яго першым кансультантам.

М. Говар.

# „Няма такой структуры“.

У 1927 годзе, з ліквідацыяй Зембінскага раёну, быў ліквідаваны і раймясцком саюзу працасьветы. Цяпер прафарганізацыяй застаўся прафгурток, ці лепш кажучы, прафкалектыў, які па сваіх разьмерах і складанасьці працы пры ўмовах мястэчка і вёскі шмат розьніцца ад іншых прафгурткоў.

Зембінскі прафкалектыў яднае 8 культасьветных установ: 7-х годка, яўрэйская школа, нардом і 5 вясковых школ, з лікам 32 сябры саюзу. Вялікі лік сяброў, яго разнастайны склад і асаблівыя ўмовы працы патрабавалі асаблівай напружанасьці з боку прафупаўнаважанага, які ня мог спраўляцца адзін з гэтай працай.

Барысаўскае райаддзяленьне саюзу працасьветы своечасова прадбачыла гэтыя цяжкасьці і зрабіла захады перад вышэйстаячымі прафорганамі аб арганізацыі ў Зембіне мясцкому ці групкому, на што Ц. П. саюзу працасьветы дало згоду. Толькі амаль што праз год справа трапіла ў прэзыдыум ЦСПСБ, які адмяніў гэту пастанову аб арганізацыі групкому, кіруючыся тым, што „няма такой структуры“.

Трэба было-б пераглядзець гэту справу і знайсьці «структуру» жывой справы, а ня мёртвага апарату.

Я. Бажок.

# Замест „0“ групы—V-я група сямігодкі*).

Калі паставіць перад вясковым настаўніцтвам, ня выключаючы нават і настаўніцтва 7-дак, пытаньне аб тым, ці патрэбна «0» група пры вясковых і раённых сямігодках, то ўсе амаль што ў адзін голас адкажуць, што яна не патрэбна.

Якія-ж довады і матывы можна прывесьці ў доказ гэтага?

Пастаноўка справы ў «0» групах пры ўсіх сямігодках наладжана ня так, як яна павінна стаяць: звычайна яны зьяўляюцца першай групай, якая баіцца цалкам выканаць праграму першай групы, а пагэтаму выконвае палавіну яе, альбо трохі больш, ці менш палавіны. Гэта ў лепшым выпадку, а ў горшым—вядуць працу бяз ніякай сыстэмы, бяз ніякага пляну, бяз ніякае мэтавае ўстаноўкі.

Хто-ж у гэтым вінават?

Амаль што ўсе працаўнікі «0» груп папалі на гэту працу выпадкова і пры першай магчымасьці яе пакідаюць; апрача таго, за малымі выключэньнямі ўсе яны ня маюць належнай падрыхтоўкі да гэтай спэцыфічнай працы і да таго-ж яе ня любяць. Новыя падрыхтаваныя працаўнікі пакуль што ў вясковыя сямігодкі не пападаюць і невядома калі пападуць, бо іх яшчэ мала ёсьць наогул, а гэта значыць, што працу ў «0» групах ня скора ўдасца наладзіць.

У гэтым годзе наглядаецца надзвычайны наплыў жадаючых вучыцца ў II канц. 7-дак. Абхапіць усіх жадаючых 7-кі не змаглі. Ёсьць выпадкі, ды многа нават іх, калі ў 5-ю гр. пападала толькі 35-50 проц. тых, якія жадалі і маюць права туды папасьці, як, напр., па Дукорскай, Пухавіцкай, Заслаўскай і інш. 7-ках, а ў гэты-ж самы час і ў гэтых самых сямігодках напоўна «0» групы поўнасьцю не нагружаны. Ці-ж ня лепш было-б замест «0» групы адчыніць новыя раўналежныя групы ў II канцэнтры пры некаторых найбольш перагружаных сямігодках і гэтым самым здаволіць справядлівыя запатрабаваньні ў асьвеце бядняцкага і серадняцкага насельніцтва.

Вясковая 2-хкамплектная школа павінна за 4 гады навучаньня пры двух настаўніках выканаць тую-ж самую праграму, якую першы канцэнтр 7-кі за 5 год, пры 5-ці настаўніках, (часамі нават гэтага патрабуюць і ад аднакамплектнай школы), і яна гэтую праграму ў большасьці выконвае здавальняюча, а гэта значыць, што, скараціўшы „0“ групы, першы канцэнтр 7-кі застанецца пры ўдвая лепшых умовах, чым 2-хкамплектная вясковая школа. Такім чынам, бяз шкоды для справы „0“ групы пры вясковых 7-ках скараціць можна.

Апрача выстаўленых довадаў, можна прывесьці і яшчэ цэлы шэраг, якія будуць гаварыць за скарачэньне „0“ груп.

Па мойму, на гэту справу трэба паглядзець з пункту гледжаньня сучаснага эканамічнага становішча дзяржавы, якое вымагае найбольш рацыянальнага скарыстоўваньня сродкаў. А сродкі на ўтрыманьне «0» груп, калі прыняць пад увагу перагрузку і нават немагчымасьць папасьці ў II канц. 7-кі ўсім дзецям беднаты, скарыстоўваюцца нерацыянальна. Трэба «0» групы замяніць такою групаю, якой больш патрабуе сучаснасьць.

П. В.

*) Артыкул друкуецца ў парадку абмеркаваньня.

# Кіно---магутны фактар у сацыяльным выхаваньні.

У апошнія гады розныя навукова-дасьледчыя ўстановы, якія ставяць аб'ектам свайго вывучэньня псыхалёгію і быт дзяцей, цікавяцца праблемаю дзіцячага кіно. Ня толькі па буйных гарадох, але і па мястэчках, дзе існуюць пастаянныя або часовыя кіно-тэатры, вечарамі можна назіраць натоўп дзяцей і падросткаў, якія імкнуцца папасьці на сэанс.

Нам усім вядома дзіцячае захапленьне кіно-тэатрам. Інстытут мэтадаў школьнае працы правёў выбарачнае абсьледваньне 2000 дзяцей па г. Маскве дзеля высьвятленьня ўплыву кіно на дзяцей. Матар'ялы абсьледваньня кажуць аб тым, што да 83 проц., а па другіх даных да 91 проц., дзяцей школьнага ўзросту рэгулярна наведваюць кіно. Матар'ялы іншых дасьледчых установ (Цэнтр. Пэдагагічная Лябараторыя Маск. Аддз. Нар. Асьветы) паказваюць, што найбольш распаўсюджанай сярод дзяцей забаваю зьяўляецца наведваньне кіно (паказаньні 40 проц. дзяцей). Значная колькасьць дзяцей досыць часта наведвае кіно (да 10 і нават 20 раз у месяц).

Такое наведваньне нельга лічыць нармальным, у сувязі з тым уплывам, які робіць кіно на дзяцей, на іх яшчэ канчаткова не сфармаваную псыхіку. Пададдзел сацыяльна-прававой абароны непаўналетніх пры Наркамасьвеце РСФСР, у выніку высьвятленьня прычын злачынства сярод дзяцей, знаходзіць, што: 1) каля 25 проц. падросткаў, абвінавачаных у кражах, пастаянна наведвалі кіно, 2) сэансы кіно-тэатраў выклікалі нездаровую ўзбуджанасьць у дзяцей і спрыялі разьвіцьцю ў іх інстынктаў злачынства. Такім чынам, кіно мае пэўны ўплыў на павялічэньне праступнасьці сярод дзяцей. Дзіцячыя лісты, накіраваныя ў кіно-арганізацыі, сьведчаць аб тым, што кіно часамі выклікае ў дзяцей упадачны настрой.

Ня трэба прыводзіць лішвія камэнтарыі да тое думкі, што дзеці ўсё пераймаюць і ў рэчавістасьці нярэдка паўтараюць паступкі кіно-актораў-авантурыстаў.

Масавы попыт дзяцей на кіно зьяўляецца, бясспрэчна, фактам станоўчым. Кіно стварае вялікія культурныя каштоўнасьці дзякуючы свайму тэхнічнаму афармленьню і фільма ня лічыцца ні з часамі ні з адлегласьцю, здарэньні адбываюцца з радыё-хуткасьцю, кіно па сваей дынамічнасьці адпавядае нашай рэвалюцыйнай эпосе. Аднак, дзеля таго, каб кіно зьявілася станоўчым фактарам у справе сацыяльнага выхаваньня і як пэдагагічная прылада,—паказ дзецям кіно-фільм павінен быць правільна арганізаваным.

Нашы камэрцыйныя кіно зусім не пры тасаваны да дзіцячых патрэбаў. Камэрцыйнае кіно мае ўстаноўку на дарослага гледача, а не на дзяцей. Зусім зразумела, што ня ўсё тое, што зьяўляецца прыгодным для дарослых, у аднолькавай меры прыгодна і дзецям, напрыклад, час сэансу, працяг сэансу, і часта маральны зьмест мастацкае фільмы можа дэмаралізаваць дзіця, вучня.

З боку праграмы камэрцыйнае кіно прыпадносе дзецям цэлы шэраг дэтэктыўна-прыключэнчаскіх і сэнтымэнтальна-мяшчанскіх фільм, асабліва з катэгорыі замежных пастановак. Рэпэртуар страдае тут ня толькі захапленьнем замежнымі фільмамі, але характэрны і самы падбор фільм: 1) у некалькіх сэрыях, 2) дэтэктывам, 3) авантурызмам. Надзвычайна шкодзяць дзецям такія сэансы, у часе якіх даюцца 2-3 сэрыі адразу. Гэтыя сэансы працягваюцца каля 2 3-х гадзін, фільма дэманструецца в галавакружыцельнай хуткасьцю і г. д. Нарэшце сама абстаноўка камэрцыйнага кіно-тэатру з тымі рэклямамі і афішамі, якія падкрэсьліваюць, галоўным чынам, эротыку, крымінальны зьмест карцін, — зусім не падыходзіць для дзяцей.

Надзвычайна важным зьяўляецца высьвятленьне ўплыву, які робіць кіно на нэрвовую сыстэму дзяцей. Калі ўзяць пад увагу неадпавядаючы для дзіцячага ўзросту зьмест фільмы, усю абстаноўку камэрцыйнага кіно-тэатру —прадпасылкі павышэньня дзіцячае нэрвовасьці будуць няўхільны. Нэрвовасьць выклікае зморапасьць, прытупляе здольнасьць да нармальных заняткаў у школе. Тыя вучні, якія лічацца пастаяннымі заўсягдатаямі кіно, хвараюць гэтаю павышанаю нэрвознасьцю, належаць да ліку адсталых у навуцы, ня маюць належнага нагляду з боку і амаль што ўсе зьяўляюцца дэзарганізатарамі школьнага правапарадку і парушыцелямі дысцыпліны. Не знаходзячы нармальнае рэалізацыі для сваёй энэргіі, яны ў рэчавістасьці паўтараюць тое, што бачаць у кіно, а гэта часта штурхае іх да хуліганства і злачынства.

Але-ж гэта ўсё не пазбаўляе кіно свайго важнага значэньня, як аднэй з самых моцных культурных прыладаў, Трэба толькі мэтазгодна і рацыянальна яе выкарыстаць і арганізаваць. Зацікаўленасьць дзяцей да кіно, якая пераходзіць часамі ў кіноманію, ня варта вытраўляць мерамі суровага законадаўства, а належыць скарыстаць яе, як цягу „да самага магутнага сродку камуністычнага выхаваньня і агітацыі" (гл. рэзалюцыю XIII партзьезду аб кіно). Нам добра вядома аб тым, што буржуазея зразумела ўсё значэньне кіно і выкарыстоўвае яго дзеля анты-пралетарскай прапаганды. Мы-ж павінны выкарыстаць яго ў сваіх мэтах.

Якія-ж магчымы шляхі па прыстасаваньню кіно дзеля дзіцячых патрэбаў?

Зараз менскі інспэктарыят нарасьветы ўзбуджае думку аб патрэбнасьці арганізацыі ў Менску дзіцячага кіно. Узьняцце гэтага пытаньня, бязумоўна, зьяўляецца пачынаньнем своечасовым, і мы будзем чакаць яго ажыцьцяўленьня. Магчымы і іншыя варыянты вырашэньня праблемы дзіцячае кіно-культуры: 1) арганізацыя школьных кіно-перасовак (у Маскве гэта з посьпехам практыкуецца), 2) наладжваньне дзіцячых кіно-сэансаў у будынках камэрцыйных кіно. Такія сэансы ў Менску і па другіх нашых гарадох часамі практыкуюцца.

Але тут трэба мець на ўвазе неабходнасьць пры правядзеньні кіно сэансаў для дзяцей належнай папярэдняй падрыхтоўкі да іх і абслугоўваньня з мэтадычнага боку. Часта ў нас такія кіно-сэансы праводзяцца вельмі нядбала: ні пэдагагічнага кіраўніцтва ў часе дэманстраваньня фільмы, ні наладжвае працы ў фойэ не назіраецца, а сярод дзіцячага натоўпу ўзьнімаецца шум, крык... Школа яшчэ ня ўцягнута ў гэту працу. Гэта вялікі недахоп.

Асноўным стрыжнем пэдагагічнае працы ў дзіцячым кіно, у якой - бы форме яно ні арганізавалася, зьяўляецца праца з карцінай. Вучань павінен атрымаць ад карціны як мага больш і пагэтаму няўхільна папярэдняя праца з карцінай. Гэта дасьць вучню правільную ўстаноўку на карціну, каб зьмясьціць яе ў аправу тае клясавае барацьбы і тых эканамічных адносін, якія панавалі або пануюць у даную эпоху. Такой прапрацоўкі асабліва патрабуюць замежныя фільмы. Уступнае слова павінна быць кароткім і выразным. Вельмі цікавіць дзяцей, калі ўступнае слова сап аважлаецца адрыўкамі вершаў або мастацкае прозы, прыстасаваных да зьместу карціны. У часе яе дэманстраваньня на экране трэба даваць некаторыя тлумачэньні ў форме рэплік, заўваг. Калі ўступнае слова дае ўстаноўку на карціну, дык увесь фактычны матар'ял фільмы растлумачваецца папярэднімі гутаркамі ў фойэ: тут і геаграфія, і гісторыя, і

# Першы зьезд беларускіх асьветнікаў у РСФСР.

*(Ад нашага Маскоўскага карэспандэнта).*

З 15-га па 18-е верасьня ў Маскве адбываўся першы беларускі зьезд працаўнікоў асьветы, якія працуюць у межах РСФСР.

На зьезд прыбылі прадстаўнікі месц, як-та: Уфы, Саратава, В.-Лукі, Смаленску і нават з далёкай Сібіры.

Ад імя Наркамасьветы РСФСР пад гучныя воплескі дэлегатаў зьезд адчыняе тав. Каляда, затым абіраецца прэзыдыум зьезду, у які аднагалосна абраны: Каляда, Паўлюкевіч, Чорнабаеў, Валасевіч і інш.

Ганаровымі членамі прэзыдыуму зьезду абіраюцца т. Крупская, Луначарскі і Баліцкі.

Зьезд віталі прадстаўнікі ад Наркамасьветы РСФСР, прадстаўнік ЦВК і СНК СССР, ад арганізаванай беларускай масы, аб'яднанай Цэнтральным Беларускім Клюбам у Маскве, зьезд вітаў тав. Чорнабаеў, пасьля былі заслуханы прывітаньні і шэрагу іншых беларускіх арганізацый.

Вельмі характэрна прывітаньне прадстаўнікоў Наркамасьветы РСФСР, якія адзначылі, што разьвіцьцю беларускіх школ і культуры перашкаджала: папершае, спадчына, пакінутая імпэрыялістычным ладам, калі беларускія школы вельмі праськедваліся, і падругое, умовы мінулага пэрыяду, якія затрымлівалі разгортваньне нацыянальнай працы, як, напрыклад, адсутнасьць адпаведных працаўнікоў асьветы і сродкаў, а галоўнае—адсутнасьць школ пераходнага павышанага тыпу.

На зьезьдзе абмяркоўваліся ўжо даўно набалеўшыя і насьпеўшыя пытаньні, як, напрыклад, плян і пэрспэктывы народнай асьветы сярод беларускага насельніцтва РСФСР, праграма мэтадычнай працы беларускіх школ, формы і мэтады палітыка-асьветнай працы сярод дарослых беларусоў.

Зьезд заслухаў інфармацыйны даклад Народнага Камісара Асьветы БССР аб культурным будаўніцтве БССР. Апошнім пытаньнем быў даклад Смаленскага Губэрскага Аддзелу Народнай Асьветы аб разьвіцьці справы асьветы сярод беларускага насельніцтва Смаленскай губэрні.

Дэлегаты зьезду зазначалі, што 1-шы Беларускі зьезд працаўнікоў асьветы, працуючых на тэрыторыі РСФСР, закладзе грунт народнай асьветы на народнай мове сярод беларускага насельніцтва.

## ПЛЯН І ПЭРСПЭКТЫВЫ НАРОДНАЙ АСЬВЕТЫ НА РОДНАЙ МОВЕ СЯРОД БЕЛАРУСКАГА НАСЕЛЬНІЦТВА.

(Даклад Наркамасьветы РСФСР).

На шляху разьвіцьця школ для беларускага народу былі вялікія перашкоды, з якімі сустракаліся у працэсе працы: скажэньне нацыянальнай палітыкі, недахоп кваліфікаваных і здольных працаўнікоў асьветы сярод беларускага насельніцтва (агітатараў, настаўнікаў, паліт-асветных працаўнікоў), адсутнасьць растлумачальнай працы сярод беларускага насельніцтва аб прынцыпах нацыянальнай палітыкі, а адгэтуль індэфэрэнтнасьць самога насельніцтва і адмаўленьне беларускай культуры, бо да гэтага часу яшчэ маюць моц сярод самога насельніцтва сьляды імпэрыялістычнага рэжыму, пры якім беларускія школы і літаратура былі загнаны ў падпольле. Апроч таго, нямала перашкаджаў працы недахват літаратуры на беларускай мове, адсутнасьць перакладнай літаратуры, адсутнасьць сродкаў, школ пераходных павышанага тыпу, і, урэшце, крайняя культурная адсталасьць беларускага насельніцтва і цяжкасьць пабудовы тэхнікуму.

Аднак, ня гледзячы на шэраг досыць цяжкіх перашкод, усё-ж мы маем буйныя дасягненьні ў гэтай галіне працы. Напрыклад: колькасьць беларускіх школ па ўсёй РСФСР за апошнія гады ўзрасла досыць значна: мы маем 152 школы першай ступені і 4 школы павышанага тыпу, 104 бібліятэкі, з якіх 2 у губэрскім маштабе, 33—валасных, 65—перасовачных; хат-чытальняў мы маем 33, чырвоных куткоў—40; апроч таго, мы маем 31 пункт па ліквідацыі няпісьменнасьці і, урэшце, 2 вялікіх цэнтральных беларускіх клюбы, з якіх адзін знаходзіцца ў Маскве і яднае некалькі тысяч беларусаў, а другі клюб—у Ленінградзе.

Усё вышэйпералічанае, зразумела, ні ў якой меры ня можа поўнасьцю здаволіць тыя масавыя попыты беларускага насельніцтва, якія яно нам прад'яўляе. Гэтыя попыты пабудзілі Наркамасьветы паскорыць пастанову аб скліку 1-га Беларускага зьезду.

Зьезд вызначыў шляхі, па якіх будуць разгорнуты беларускія школы і іншыя палітыка-асьветныя ўстановы.

Чорнабаеў.

---

быт, і эканоміка—усё гэта даецца ў цікавых і даступных для дзяцей формах. Тут будзе назірацца патрэба і ў некаторых ілюстрацыйных матар'ялах, у вопытным падагогу, мастацкім апавядальніку. У некаторых выпадках гутарку можна замяніць гучным чытаньнем. Калі ідзе інсцэніроўка якоганебудзь мастацкага твору («Маці» Горкага і інш.).

Аднак, пералічаным вышэй абмежавацца ня прыходзіцца. Трэба імкнуцца і да таго, каб вучні не заставаліся пасыўнымі гледачамі. Трэба дабіцца, каб яны рабіліся, па магчымасьці, актыўнымі ўдзельнікамі кіно-пастановак, выяўлялі сваю самадзейнасьць. Тут мысьліцца ўдзел дзяцей у кіно-рабішніках, мастацкіх, газэтных і кіно-тэхнічных гуртках, якія канцэнтрыруюцца навакол дзіцячага кіно. Гуртох кааппарацыі можа ставіць перад сабой задачу наладжваньня таннага буфэту ў фойэ. Памянёныя мэтады могуць быць ужыты і да кіно-сэансаў для дзяцей у школах і ў будынках камэрцыйных кіно.

Пры разьвязваньні пытаньняў кінокультуры сярод дзяцей трэба зьвярнуць увагу яшчэ на адзін бок справы: падрыхтоўку спэцыяльных дзіцячых рэпэртуараў. Апошняга можна дасягнуць праз вытворчасьць новых дзіцячых фільм і перамантаж фільм з агульнага фонду, прыгодных для дзяцей. Можна выкарыстоўваць некаторыя фільмы і без перамантажу.

Наогул, справа вырашэньня праблемы дзіцячага кіно ўскладае адказныя задачы на нашы выхаваўчыя і культурна-асьветныя ўстановы. Згадзіцца трэба толькі з адным: справу надалей адкладаць нельга.

Віскар.

## Весткі з месц.

### Завочная савпартшкола.

**Гомель.** З 1-га кастрычніка ў Гомелі, пры ўсебеларускай савпартшколе, пачынае працаваць завочная Савпартшкола. У школу прымаюцца слухачы са ўсіх акругаў БССР, праз адпаведны акругком партыі.

### Школы кройкі і шыцьця.

**Бабруйск.** Прэзыдыум Бабруйскага Гарсавету пастанавіў зачыніць усе прыватныя школы кройкі і шыцьця. Інспэктарыяту народнай асьветы даручана адчыніць такія школы на прынцыпе самааплаты.

# У абарону настаўніка-актывіста.

У 1923 г., пасьля васьмігадовага аўстрыйскага палону, настаўнік Шыдлоўскі вярнуўся на бацькаўшчыну. Летам таго-ж году паступіў на палітычна-пэдагагічныя курсы ў гор. Чэрвені, а восеньню быў назначан настаўнікам Вяркальскай аднакамплектавай школы былога Шацкага раёну.

Прыехаўшы па месца, ён, заміж школьнага памяшканьня знайшоў сьцены будынку (сказалі яму, што гэта былы панскі дом) з адзнакамі страхі, без вакон, дзьвярэй, юшак і інш. А вучыць дзяцей трэба. Пачаў прасіць сялян, каб дапамаглі падлатаць школу, але куды там, самі нічога ня маюць--яшчэ ня вычухалі польскага панаваньня.

Пачаў Шыдлоўскі сам сяк-так прыводзіць у парадак адзін пакой і адчыніў заняткі з 60 вучнямі. У малым пакоі ўсе не зьмяшчаюцца ды і лавак не хапае, дык ён вядзе заняткі ў дзьве зьмены.

Тым часам зіма не чакае,—у «клясе» холадна, а паліць няма як—у печцы ні дзьверцаў, ні юшак. Зьвяртаецца ён у валасны выканком, а там яму: «сродкаў, няма, спыняй калі хочаш, заняткі».

І вось ён за свае ўласныя 8 пудоў жыта (як вядома, тагды гэта была самая аўтарытэтная валюта) наймае муляра і рамантуе печы. Аказалася гэтага мала—праз дзьверы сабакі бегаюць. Ахвяраваў настаўнік яшчэ 10 уласных пудоў жыта і адрамантаваў дзьверы і вокны. Заняткі ня спыняюцца, вядуцца ў дзьве зьмены.

Адным словам, школьная праца больш-менш наладзілася. Тут-жа выплыла і пазашкольная праца—абралі сакратаром к-ту сялянскай узаемадапамогі, вядзе гутаркі, піша заявы.

Вясной робіць першы выпуск, школу канчаюць 12 вучняў. Прадстаўнік павятовага аддзелу асьветы падкрэсьлівае, што вучні Вяркальскай школы зьяўляюцца лепшымі па ведах і агульнаму разьвіцьцю.

Пачаўся 24-25 навуч. год. Зноў заняткі ў дзьве зьмены. РВК звярочвае ўвагу на настаўніка і выдае ўзнагароду 33 рублі за асабліва напружаную і карысную працу.

Школа пачала жыць поўным жыцьцём—замацавана за ёю дзялянка ў 7 гэктараў, з іх каля 2 гэктар. саду, будынак адрамантаваны так, што перад людзьмі ня сорам.

1926 год. Шыдлоўскі абіраецца старш. рэвізыйнай камісіі сельсавету, а на раённым зьезьдзе членам РВК; на першым-жа плэнуме РВК фракцыя апошняга высунула Шыдлоўскага (беспартыйны) на пасаду загадчыка культспраў.

А ў школу тым часам хацеў улезьці настаўнікам гр-н тэй-жа вёскі Катлінскі. Шыдлоўскі, як загадчык культспраў, з гэтай кандыдатурай не згадзіўся, і тады гр. Катлінскі паабяцаў: «ня буду я, ня будзе і Шыдлоўскі—калі вернецца з РВК, я яго ўсё роўна выжыву».

З гэтага і пачынаецца паступовае «выжываньне».

Шыдлоўскі праз нейкі час працы ў РВК зламаў нагу і вярнуўся назад у Вяркальскую школу.

Тым часам гр-н Катлінскі абіраецца ў сельсавет і становіцца яго старшынёй. Шыдлоўскі-ж абіраецца старшынёй рэвізійнай камісіі сельсавету.

Для гр-на Катлінскага надышоў больш спрыяючы час, каб выканаць сваё абяцаньне — «выжыць» Шыдлоўскага са школы. На сямейнай нарадзе было вырашана „зьбіраць“ матар'ялы і чакаць „удобнага“ моманту.

А Шыдлоўскі, як і раней, працуе і ў школе і па-за школай. У студзені 28 году рэвізыйная камісія сельсавету на чале з Шыдлоўскім зрабіла рэвізыю сельсавету, вынікам якой было зьняцьце з працы старшыні с.-с. Катлінскага і перадача яго справы сьледчым органам.

Пасьля гэтага здарэньня Катлінскі яшчэ больш узьеўся супроць Шыдлоўскага і прыняўся больш актыўна «зьбіраць» матар'ялы, каб-такі выжыць яго.

У выніку гэтага «зьбіраньня» матар'ялаў Шыдлоўскі (у канцы гэтага лета) быў пераведзен другім настаўнікам тэй-жа школы (гады са тры таму назад яна стала двухкамплектавай), а ў апошні час зусім з працы зьнят. Справа-ж супроць яго знаходзіцца ў парыядзе сьледства.

Супроць настаўніка Шыдлоўскага высунута абвінавачаньне ў тым, што ён нібы-то біў вучняў.

Дзіўна толькі, чаму чалавек, які працаваў 5 гадоў на адным месцы, а школа яго лічылася адной з лепшых у раёне, сам ён быў высунут у загадчыкі культспраў,—цяпер зьяўляецца старшынёй рэвізыйнай камісіі сельсавету, старшынёй сельгаскрэдытнага т-ва, старшынёй культурнай і санітарнай камісіі сельсавету і да апошняга часу быў старшынёй пашыранага пэдсавету,—раптам стаў злачынцам, зьнят з працы і чакае суду.

Дзе былі і што рабілі мясцовыя працаўнікі 5 гадоў? Чаму яны ня бачылі, што Шыдлоўскі займаецца катаваньнем вучняў?

Здаецца, у гэтай справе ёсьць нешта вельмі і вельмі бруднае.

Трэба сказаць хоць-бы пра такі брудны факт, аб якім гавораць сяляне вёскі Вяркалі: гр-н Катлінскі зьбірае дзяцей групамі і паасобку і навучае іх, каб яны казалі сьледчаму, ці міліцыянэру ў часе допыту, што настаўнік Шыдлоўскі чуць не ламаў ім чарапы.

Наколькі ўсё гэта верна, выявяць сьледчыя органы і савецкі суд.

Насельніцтва-ж 20 насельных пунктаў, якія абслугоўвае Вяркальская школа, з пецярплівасьцю чакае канца гэтай справы.

Было-б вельмі пажадана, каб гэта справа слухалася паказальным працэсам—яна можа даць многа карыснага нашай грамадзкасьці.

Між іншым супроць наст-ка Шыдлоўскага высунут аргумэнт, што нібы яго бацька быў эканомам у старыя часы ў памешчыка, а сын зьдзекуецца над сялянскімі дзецьмі „па насьледзтву“.

Гэта ганебная хлусьня: бацька Шыдлоўскага быў з малада́х гадоў да рэвалюцыі пастухом у маёнтках, а з часу рэвалюцыі да 1920 г. быў так сама пастухом у савецкай гаспадарцы Дукоры, затым у 1920 годзе з гэтага «чыну» савецкай уладай быў „разжалаван“ і атрымаў узнагароду—пасёлак.

Сам-жа настаўнік Шыдлоўскі выбіўся ў настаўнікі ў 1913 годзе без спэцыяльнай навукі—экстэрнам.

**Камлюк.**

## Дайце лепшага матэматыка.

(М. Мілаславічы, Магілеўскай акр.).

У Мілаславіцкай школе 7-годцы старэйшы канцэнтр да гэтага часу не запоўнен настаўнікамі з вышэйшай асьветай. Напрыклад, пасаду выкладчыка матэматыкі, гэтай найбольш цяжкай і адказнай дысцыпліны, займае т. Жынгароўскі Мікола, які скончыў толькі тэхнікум. Вясной 1928 году на выпускным сходзе вучні адкрыта выказвалі незадаволеньне такім настаўнікам, які, па іх словам «палову тэорэм сам даказаць ня змог», і нават казалі, што сёлета палова вучняў 7-й клясы ня вытрымалі выпускных калёквіумаў толькі дзякуючы яго няўдаламу выкладаньню.

Ня гледзячы на ўсё гэта, справу гэту ўсё-ж такі неяк замялі, і сёлета выкладчыкам матэматыкі застаецца той самы настаўнік Жынгароўскі.

— Зноў з-за яго будзем правальвацца на калёквіумах,—кажуць вучні.

Загадчык школы т. Маслакоў чамусьці робіць усе захады да таго, каб Жынгароўскі застаўся на ранейшай пасадзе і на апошнім пасяджэньні школьнай рады нават дакляраваў яго, як высока-кваліфікаванага спэца па матэматыцы.

Акр. Інспэктарыят павінен зьвярнуць на Мілаславічы ўвагу і прысласць сюды матэматыка больш моцнага.

**П—т.**

**На шляху самаадукацыі.**

# „Пэдтэхнікум Дома“ зацікавіў вясковага настаўніка.

У Народны Камісарыят Асьветы за апошнія часы са ўсіх куткоў Беларусі паступаюць лісты ад вясковых настаўнікаў з запытаньнямі накont «Пэдтэхнікуму Дома». Я пастараюся даць адказы на гэтыя запытаньні.

**1. Ці ёсьць ужо праграмы за «Пэдтэхнікум дома»?**

**Адказ.** Праграмы для «Пэдтэхнікуму дома» тыя-ж самыя, што і для звычайнага пэдтэхнікуму. Яны—праграмы—выдрукаваны ў «Асьвеце» за 1927 г. №№ 1, 2, 3, 4.

Але НКА мяркуе выдаць тыя-ж самыя праграмы, толькі больш прыстасаваныя для індывідуальнае распрацоўкі: будуць праграмы-канспэкты, разьбітыя на асобныя тэмы-заданьні, да іх—кантрольныя запытаньні і літаратура. Імкненьне скласьці гэтыя праграмы-канспэкты набліжанамі да 1—2-х падручнікаў. Такія праграмы-канспэкты складзены, перададзены ў друк і павінны выйсьці ў першай палове бягучага вучэбнага году па: 1) Гісторыя клясавай барацьбы, 2) матэматыцы, 3) фізыцы, 4) біолёгіі, 5) літаратуры і 6) географіі.

Апрача гэтага, усе праграмы звычайнага пэдтэхнікуму будуць выданы ў гэтым годзе асобным зборнікам.

**2. Дзе іх можна набыць, №№ выданьня і назва яго?**

**Адказ.** Па выхадзе з друку спэцыяльных праграм-канспэктаў іх можна будзе дастаць у тым пэдтэхнікуме, да якога вы б дзеце прыпісаны і атрымоўваць кансультацыі, альбо ў БДВ у Менску, ці яго аддзяленьнях у акругах. Часопіс «Асьвета» №№ 1, 2, 3 і 4 павінны быць у школах, альбо ў бібліатэцы райметбюро.

**3. За якія курсы маюцца праграмы?**

**Адказ.** Праграмы маюцца за ўсе 4 курсы звычайнага пэдтэхнікуму, а г. значыць і для „П. Д“, а распрацаваныя спэцыяльна для «П. Д.» абхоплiваюць усю дысцыпліну цалкам, не падзяляючы на курсы, бо гэта ня мае асаблівае ролі для таго, хто будзе здаваць іспыты па таму ці іншаму прадмету, за той ці іншы курс.

**4. Маюцца падручнікі, дапасаваныя да прахаджэньня праграм, ці трэба карыстацца падручнікамі розных крыніц?**

**Адказ:** Праграмы пэдтэхнікумаў пабудаваны на матар'ялах некалькіх падручнікаў і аўтараў, а пры ўкладаньні канспэктаў-праграм для „П. Д.“ браўся напрамак на 1—2 і падручнікі. Якія падручнікі патрэбны для заняткаў—ёсьць указаньні ў канцы праграмы на падручнікі і наогул сьпіс неабходнае літаратуры.

**5. Ці адпавядае праграма „Пэдтэхнікум дома“ праграмам пэдтэхнікумаў БССР?**

**Адказ:** Праграма «П. Д.» амаль што аднальковая з праграмамі звычайнага пэдтэхнікуму, за выключэньнем некаторых практычных прац у лябараторыях і фэрмах.

**6. Ці даюцца экстэрнам так'я-ж правы, як і скончыўшым пэдтэх. БССР, а таксама ці выдаюцца атэстаты?**

**Адказ.** Пасьля здачы ўсіх залікаў за пэдтэхнікум, вытрымаўшаму выдаецца атэстат, у якім значыцца, што ён здаў усе залікі і мае правы. Правы аднолькавыя са ўсімі іншымі, якія скончылі пэдтэхнікум звычайным парадкам.

**7. Як можна трымаць іспыты: па прадметах, па курсах ці за ўвесь тэхнікум разам?**

**Адказ.** Трымаць іспыты можна па курсах і прадметах, альбо, калі добра падрыхтавацца, то адразу за ўвесь тэхнікум. У часе апрацоўкі палажэньня аб «П. Д. меркавалася, што тыя настаўнікі, якія запішуцца, будуць трымаць пакурсна; дзеля гэтага меркавалася, што залічыўшы я ў слухачы «П. Д.» можна лічыцца толькі 5 гадоў, каб здаць іспыты за 4 гады.

Падрабязны адказ па гэтым пытаньні можна атрымаць ад таго пэдтэхнікуму, у якім будзеце лічыцца слухачамі.

**8. Ад каго трэба браць дазволы на права трыманьня іспытаў, каб быць дапушчаным да іх?**

**Адказ.** Трэба дамовіцца з тым пэдтэхнікумам, дзе будзеце запісаны слухачом. Наогул усе справы арганізацыйнага характару вядзе дырэктар таго пэдтэхнікуму, куды вы запішацеся слухачамі. Адтуль і будзе ўсё кіраўніцтва праз канфэрэнцыі, альбо ў пісьмовай форме. Да іспытаў дапушчаюць усіх, хто жадае іх трымаць.

**9. У якія тэрміны адбываюцца іспыты за „Пэдт х. дома“?**

**Адказ.** Тэрмін іспытаў бывае ўвосень разам з прыёмам і пераводам студэнтаў з курсу на курс і вясной—у часе залікаў і пераводаў. Тэрміны вызначаюцца пастановаю пэдагагічнай рады і паведамляюцца ўсім тым, хто запісан і хоча трымаць іспыты.

**10. Пры якіх пэдтэхнікумах БССР ужо працуюць кансультацыйныя бюро?**

**Адказ:** Кансультацыйныя бюро маюцца пры ўсіх пэдтэхнікумах, за выключэньнем Слуцкага, які з 1-X г. г. толькі адчыняецца, але праз некаторы час і там будзе арганізавана кансультацыйнае бюро.

**11. Пры якіх пэдтэхнікумах БССР можна трымаць іспыты за «Пэдтэхнікум дома»?**

**Адказ.** Можна трымаць іспыты пры ўсіх пэдтэхнікумах БССР, толькі спачатку трэба запісацца слухачом пры адным з іх і мець пастаянную і сталую сувязь.

**12. Ці былі ўжо выпадкі, каб настаўнікі трымалі іспыты за «Пэдтэхн. дома?**

Адказ. Так, былі. З першага-ж году выдачы палажэньня аб пэдтэхнікуме дома запісалася пры ўсіх пэдтэхнікумах каля 300 асоб, а на 1-V г. г. ужо налічвалася больш 700 асоб. Трымалі іспыты пры Магілеўскім і Аршанскім пэдтэхнікумах. Некаторыя здавалі пакурсна, а некаторыя па прадметах. Вынікі залікавай вясеньняй кампаніі г. г. яшчэ не падведзены.

Трэба сказаць, што вясеньняя сэсія самая лепшая для вясковага настаўніка, бо ўлетку ён мае шмат часу на самападрыхтоўку.

**13. Тэхніка залічэньня ў завочнікі па праходжаньню «тэхнікуму дома»?.**

**Адказ.** Трэба зайсьціся самому ў адзін з бліжэйшых па адлегласьці пэдтэхнікум, запоўніць патрэбныя анкеты, а калі далёка і нельга зайсьціся самому ці праз знаёмага дык можна сьпісацца праз пошту.

**14. Настаўнік, які ўжо шмат гадоў працаваў, ці павінен даваць экзаменацыйныя практычныя лекцыі?**

**Адказ.** Так, павінен кожны, хто здае за пэдтэхнікум, даць практычныя лекцыі, але некаторым настаўнікам з вялікім стажам могуць быць адхіленьні ад гэтага правіла, улічваючы вынікі іспытаў па пэдагагічнаму цыклю і тэрмін працы ў школе.

НКА разам з ЦП Саюзу Працасьветы робяць усе крокі да таго, каб дапамагчы вясковым настаўнікам набыць належную адукацыю.

Цяпер справа за самімі асьветнікамі.

**Ал. Аніхоўскі.**

## *Наша перапіска.*

**НАСТАЎНІЦКАМУ КАЛЕКТЫВУ.** Пухавічы. На ваш допіс «За дашкольнае выхаваньне» інспэктура сацвыху НКА паведамляе, што „допіс тав. Валасэвіча, зьмешчаны ў № 207 „Сав. Бел.“ па пытаньню аб нулявых групах, зьяўляецца асабістай думкай тав. Валасэвіча, а не ўсяго Нар. Кам. Асьветы». З тэй прычыны, што ў сваім допісе вы толькі крытыкуеце артыкул тав. Валасэвіча, а наконт нулявых груп ня прыводзіце ніякіх довадаў, допіс друкаваць ня будзем.

**РЫГОРУ НЯДОЛЯ.** Магілеў. Апавяданьне «Жыцьцё кліча» да друку, на жаль, не пaдыходзе: з яго не вынікае ніякае ідэі, а таксама зусім не распрацаваны тыпы.

**АСЬВЕТНІКУ.** Амсьціслаў. Пра раённую канфэрэнцыю асьветнікаў друкуем. Пра пытаньне практычнай сувязі пэдтэхнікуму з вясковым настаўніцтвам напішаце самастойную карэспандэнцыю.



1-я друкарня „БДВ“. Галоўлітбел № 302.